

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUSČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка л...іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 П. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 20 (504) — Нядзеля, 15 травеня 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# Перад Парыскай Канфэрэнцыяй

Яшчэ ня было ніводнай міжнароднай канфэрэнцыі пасьля заканчэньня апошняе вайны, да якой ейныя ўдзельнікі гэтак доўга й грунтоўна прыгатаўляліся-б, як да цяперашняй канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні ў Парыжы.

Ужо вялікія падарожжы прэзыдэнта Айзэнгаўэра ў краіны Паўдзённа-Ўсходняй Азіі й Лацінскае Амэрыкі, брытанскага прэм'ера Макміляна ў Паўдзённую Афрыку ды напасьледак Хрушчова таксама ў краіны Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, хаця й былі выкліканы беспасярэднімі патрэбамі ў змаганьні за палітычныя ўплывы, сваей далейшай мэтай мелі награмаджаваньне палітычнага капіталу для парыскіх нарадаў. Далей падарожжы Хрушчова ў Вялікабрытанію, Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й Францыю былі таксама задуманы галоўным чынам у мэтах падняцьця аўтарытэту Савецкага Саюзу й асабіста Хрушчова з гледзішча на парыскае спатканьне, якое мае стацца вялікім спаборніцтвам між Захадам і Ўсходам у роўніцы найважнейшых праблемаў палітыкі.

Дык калі ўспомненыя палітычныя падарожжы мелі характар гэтага спаборніцтва між Захадам і Ўсходам ў галіне палітычнага падмацаваньня кожнага з партнэраў, дык нязвычайна інтэнсыўныя й частыя падарожжы ў рамах толькі заходняга блёку былі выкліканы няўхільнай патрэбай узгадненьня й каардынацыі палітычнае лініі заходніх саюзьнікаў узноў-жа з гледзішча на Парыскую канфэрэнцыю. Да такіх падарожжаў належаў аб'езд краінаў Заходняе Эўропы прэзыдэнтам Айзенгаўэрам летам мінулага году, а так-жа адведзіны Амэрыкі Макміляном, Адэнаўэрам і Дэ Голем.

Узьнікае ўражаньне, што цяперашняе спатканьне на найвышэйшай узроўні, другое пасьля такога-ж спатканьня ў Жэнэве летам 1955 году, павінна стацца падзеяй вялізарнага гістарычнага значаньня, нейкім зваротным пунктам у змаганьні між Захадам і Ўсходам і ў сваіх выніках прынесьці капітальныя разьвязкі неразьвязаных на працягу ўсяго пасьляваеннага пэрыяду сьветавае вагі праблемаў. Выходзячы з гэтага, варта задаць сабе пытаньне, якія шансы ўдачаў мае цяперашняе спатканьне на найвышэйшай ўзроўні і якіх канкрэтных вынікаў можна ад яго спадзявацца? Канкрэтнага матарыялу, каб адказаць на гэтае пытаньне, апошнім часам назьбіралася дастаткова.

Галоўнай мэтай канфэрэнцыі ёсьць, як ведама, ліквідацыя або прынамся злагоджаньне сьветавага напружаньня, якое, у выпадку ягонага далейшага паглыбленьня й завайстрэньня, хавае ў сабе загрозу новае сьветавае вайны. Канкрэтна канфэрэнцыя будзе займацца праблемамі, якія гэтага напружаньня зьяўляюцца галоўнай прычынай: праблемай раззбраеньняў, пытаньнем задзіночаньня Нямеччыны й справай Бэрліну.

У гэтых кардынальных пытаньнях, вакол якіх разыгрываюцца многія іншыя палітычныя падзеі, пазыцыя Захаду апошнім часам больш менш устабілізавалася й разыходжаньні між ягонымі галоўнымі партнэрамі, спрычыненыя перадусім угодніцкімі тэндэнцыямі Вялікабрытаніі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, злагоджаныя. Такім чынам, ня гледзячы на больш цьвёрдую й станоўчую пазыцыю Амэрыкі, чымся яе эўрапэйскіх саюзьнікаў, а галоўна тэйжа Вялікабрытаніі, кіраўнікі заходніх вялікадзяржаваў выступяць на канфэрэнцыі ўзгодненым фронтам. Гэта трэба аднесьці да дадатніх дасягненьняў заходняе палітыкі.

Аднак вельмі шмат цешыцца з такога скаардынаваньня палітычнае лініі яшчэ ня прыходзіцца. Захад, як і ўвесь час перад гэтым на працягу ўсяго пасьляваеннага пэрыяду, прыгатаваны выступаць усяго толькі з чыста абаронных пазыцыяў, навет і ня думаючы перайсьці да пазыцыяў наступальных, на якіх стаіць увесь час Савецкі Саюз. Неаднакратныя намеры Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, каб на савецкія ўдары адказаць собскімі контрударамі, а там, дзе трэба, такія ўдары наносіць праціўніку, ня будучы ім справакаваным да гэтага, заўсёды паралiжаваліся й цяпер паралiжуюцца эўрапэйскімі саюзьнікамі Амэрыкі.

Прыкладам у Вялікабрытаніі ўжо вытварылася канцэпцыя, што калі навет канфэрэнцыя на найвышэйшай узроўні ня прынясе для Захаду абсалютна ніякіх пазытыўных вынікаў, дык усёроўна шмат карысьней калі яна адбудзецца, чымся калі-б зусім не адбылася. Прэзыдэнт Францыі Дэ Голь апошнім часам пайшоў яшчэ далей. Выступаючы нядаўна перад амэрыканскім Кангрэсам у справе ўзаемадачыненьняў між Захадам і Ўсходам, прэзыдэнт Францыі выказаўся ўсяго толькі за ўстанаўленьне свайго роду modus vivendi, за захаваньне status quo, што, на ягоную думку, павінна прывесьці да жаданага адпружаньня. Затое перасьцерагаў перад намаганьнямі разьвязаньня спрэчных канкрэтных праблемаў, перад «жаданьнямі заключэньня трактатаў», устанаўленьня граніцаў, зьмены статуту ў найбольш задражненых раёнах». Усё гэта было-б дрэнным і лёгкадумным крокам, які прывёў-бы да пагоршаньня дачыненьняў з Савецкім Саюзам.

У іншай прамове, сказанай у Амэрыцы, Дэ Голь выказаўся навет супраць спробаў разьвязваньня ў сучасны мамэнт нямецкае праблемы й справы Бэрліну. Разьвязаньне гэтых праблемаў, паводле Дэ Голя, мае наступіць пазьней, паступова, само сабой у выніку дасягнутага адпружаньня, якое, на ягоную думку, зусім магчымае бязь ніякіх канкрэтных перадумоваў, а толькі дзякуючы добрай волі самога Хрушчова.

На прэсавай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне Дэ Голь схарактарызаваў Хрушчова, як «чалавека сільнага», які ўсё жыцьцё змагаўся за свае ідэялы. Паводле Дэ Голя, «Савецкі Саюз ня можа быць лепш рэпрэзэнтаваны, як чалавекам, які выражае найдакладней становішча сяньняшнай Расеі. Гэта ня ёсьць учарашняя Расея, а навет тая зь перад дзесяцёх год». Прыходзіцца проста дзівіцца, да якой несамавітай канцэпцыі прыйшоў прэзыдэнт Францыі, які верыць у дасягненьне адпружаньня бязь ліквідацыі ягоных прычынаў.

Затое Хрушчоў добра ведае, чаго хоча ад сваіх заходніх партнэраў. Сваё становішча апошнім часам кіраўнік савецкае дзяржавы гэтак ясна сфармуляваў, што для заходніх дзяржаўных мужоў не пакінуў ніякіх сумлеваў.

У сваёй прамове ў Баку на паседжаньні Вярхоўнага Савету Азэрбайджанскай ССР у канцы красавіка Хрушчоў у справе Бэрліна зложыў на толькі грознае асьветчаньне, што Савецкі Саюз усё-ж падпіша сэпаратны мірны дагавор з Усходняй Нямеччынай. Пры гэтым заявіў: **«Заходні Бэрлін знаходзіцца на тэрыторыі Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі. Фактам заключэньня мірнага дагавору Усходняя Нямеччына абыйме сваімі сувэрэннымі правамі ўсю тэрыторыю. Калі заходнія дзяржавы адмовяцца падпісаць мірны дагавор зь Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікай, дык бясспрэчна страцяць права доступу ў заходні Бэрлін на зямлі, вадзе і ў паветры».**

Сваё становішча, якое мае заняць на канфэрэнцыі ў Парыжы, з усей яснасьцю выказаў Хрушчоў у даўжэзнай прамове на апошняй сэсіі Вярхоўнага Савету СССР. Заявіўшы, што Савецкі Саюз галоўнай сваёй мэтай ставіць ліквідацыю сьветавага напружаньня, умаца-

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

# Дружба й раўнапраўнасьць, ці паняволеньне й дыскрымінацыя

20-га красавіка газэта «Советская Белоруссия» прысьвяціла свой перадавы артыкул Леніну, як «арганізатару шматнацыянальнай савецкай дзяржавы». У гэтым артыкуле яшчэ раз выхвальваецца гэтак званае «нябывалае ў гісторыі людзтва» шчасьце, дружба, раўнапраўнасьць, свабода й незалежнасьць народаў, аб'едназаных — зразумела, «дабраахвотна» — Ленінам і камуністычнай партыяй у Савецкім Саюзе.

Як доказ дружбы народаў СССР, партыйны ворган ЦК КП Беларусі падае, між іншым, і такі прыклад: «...Пасланцы беларускага народу працуюць на новабудоўлях Сібіру й Далёкага Ўсходу, здабываюць вугаль на шахтах Украіны, вырошчваюць збожжа на палёх Казахстану, сякуць лес у Карэліі. Так у гэраічнай працы на вялікіх будоўлях сямігодкі гартуецца й мацнее братняя дружба нашых народаў».

Гартаваць і ўмацоўваць дружбу й супрацоўніцтва паміж народамі — справа, бязумоўна, вельмі шляхотная. Але гаварыць так аб гэтым можна толькі тады, калі такое супрацоўніцтва разьвіваецца на запраўды свабодных, дабраахвотных і раўнапраўных прынцыпах, калі яно ня прыносіць ніякай шкоды паасобным людзям і народам. Хто-ж не закрывае вачэй на запраўднае палажэньне справаў, той ведае, што ў Савецкім Саюзе партыйнае кіраўніцтва гэтае супрацоўніцтва будуе на зусім іншых прынцыпах, якія пярэчаць першапачатковаму сэнсу самога слова, «супрацоўніцтва».

Ужо на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў бальшавіцкая ўлада ўсімі спосабамі партыйнага гвалту й дзяржаўнага ціску адрывае Беларусаў ад роднага краю й гоніць у Сібір і на Далёкі Ўсход, у Карэлію й Казахстан. У замен-жа Беларусь атрымлівае тое, што беларускія палі зарастаюць кустарнікамі й пакрываюцца балотамі, ператвараючыся ў «новую цаліну», як гэта няраз былі змушаныя прызнаваць і высокапастаўленыя менскія партыйныя вельможы, на чале з Мазуравам. Гэта ў выніку бальшавіцкай гэтак званай «дружбы й супрацоўніцтва паміж народамі» колькасьць насельніцтва БССР, як яшчэ раз пацьвердзіў нядаўны перапіс, усьцяж памяншаецца на цэлыя мільёны. А што яшчэ горшае, гэта тое, што, ня гледзячы на дасюлешняе апусташэньне Беларусі, і далей прыходзяць паведамленьні аб высылцы новых кантынгэнтаў беларускай моладзі на асваеньне заўральскіх прастораў і на розныя іншыя «камуністычныя будоўлі». Гэтая высылка й далей суправаджаецца крыклівымі фразамі савецкай прэсы й радыя аб «дабраахвотнасьці», «энтузіязьме», «дружбе», «супрацоўніцтве».

Залганасьць бальшавіцкай прапаганды аб раўнапраўнасьці падсавецкіх нацыяў магчыма найбольш яскрава выкрываецца на прыкладзе безаглядная русыфікатарскай палітыкі Масквы і ейных стаўленікаў на мясцох. Чырвоная маскоўская арыстакратыя прызнаецца, што мільёны Беларусаў высланыя з Бацькаўшчыны ў розныя далёкія раёны СССР. Яна замоўчвае, што мільёны беларускага насельніцтва й сотні тысяч квадратных кілямэтраў беларускай этнаграфічнай тэрыторыі былі ў розныя часы бяз згоды беларускага народу далучаныя да РСФСР і іншых саюзных рэспублікаў. Але гэта-ж таксама незапярэчны факт. І нідзе, ні ў Сібіры, ні ў Казахстане, ні ў Смаленскай ці іншых этнаграфічна беларускіх вобласьцях, далучаных да РСФСР, ні на беларускай Віленшчыне, далучанай цяпер да Літоўскай ССР — нідзе ў СССР, апрача БССР, бальшавікі не дазволілі стварыць аніводнай беларускай школы, каб беларускія дзеці маглі вучыцца ў сваёй роднай мове, або, прынамся, вывучаць мову бацькоў, як прадмет.

Аб чым гэта сьветчыць: аб «раўнапраўнасьці» й «дружбе» паміж народамі? А аб чым сьветчыць тое, што беларуская мова з кажным годам усё больш выціскаецца расейшчынай і ў самой «сувэрэннай» БССР?

Тут, аднак, варта адзначыць, што дружба, салідарнасьць і супрацоўніцтва паміж моладзяй розных нацыянальнасьцяў, якую бальшавіцкая сыстэма выганяе з бацькаўшчыны й бязьлітасна эксплятуе, існуе запраўды, толькі не ў такой форме, як гэтага жадала-б партыя й як гэта размалёўвае ейная прапаганда. Гэтая дружба й салідарнасьць былі яскрава прадэманстраваныя паўгоду таму на будаўніцтве Тэмір-Таўскага мэталюргічнага камбінату ў Казахстане. Як мы ўжо паведамлялі ў «Бацькаўшчыне», тысячы беларускай і ўкраінскай моладзі, загнанай рэжымам у нялюдзкія ўмовы жыцьця й працы на будаўніцтве прыгаданага заводу, дружна й салідарна схапіліся за зброю й паміралі пад агнём аддзелаў дзяржаўнай бясьпекі, бароночы свой гонар і правы на людзкое існаваньне. Гэта прыклад запраўднай дружбы, дружбы нікім не накінутай, дружбы зьняволеных, але свабодных духам і бястрашных маладых людзей, дружбы, выкаванай супольнай нядоляй. Якой хвальшывай і нікчэмнай у ваблічы гэтай дружбы становіцца афіцыйная бальшавіцкая дружба?

У ваблічы гэтага мала абгрунтаванымі здаюцца радкі зь вершу Максіма Танка «На цаліне», зьмешчанага ў І-ым нумары часапісу «Полымя» за гэты год. Свой верш аб долі маладых беларускіх матак, якія апынуліся ў казахстанскіх

(Заканчэньне на 2-ай бачыне)

# Як пастанаўляецца, так і выконваецца...

У канцы красавіка сёлета ў Менску адбыўся пленум ЦК камуністычнай партыі Беларусі. На гэтым пленуме шмат увагі было зьвернута на выкананьне сацыялістычных забавязаньняў для павялічэньня вытворчасьці й продажы дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў у 1960 годзе, у прыватнасьці — у першым квартале. На пленуме было таксама закранута пытаньне аб ходзе веснавой сяўбы.

Вось-жа, паводля заведзенага парадку, у пастанове Пленуму перш за ўсё адзначана, што ў першым квартале 1960 году калгасы й саўгасы дабіліся некаторых удачаў у справе вытворчасьці й нарыхтовак прадуктаў жывёлагадоўлі. Павялічылася вытворчасьць мяса й малака ў калгасах і саўгасах. Усе вобласьці датэрмінова выканалі плян першага кварталу па продажу мяса й малака дзяржаве. Навет павялічылася колькасьць буйнай рагатай жывелы. Таксама асьцярожна адзначана, што калгасы й саўгасы крыху лепш падрыхтаваліся да веснавой сяўбы, чымся летась.

Аднак гэтымі дасягненьнямі закрываюцца ня зусім вясёлыя справы. У пастанове адзначана, што «у рэспубліцы ня створаны такія абставіны й напружанасьць у працы ды такія патрабаваньні да кадраў, якія-б гарантавалі пасьпяховае выкананьне прынятых працаўнікамі сельскай гаспадаркі забавязаньняў на 1960 год».

Што азначае гэтая туманная фармулёўка? Што трэба разумець пад кадрамі й працаўнікамі сельскай гаспадаркі?

У свой час існавалі пэўныя нормы здачы дзяржаве прадуктаў сельскай гаспадаркі з кажных сто гэктараў зямельнай плошчы ў калгасе. Апошнія два гады ўжываецца іншы спосаб забраць ад калгаснага сялянства найбольшую колькасьць збожжа, малака, мяса. Асноўнай формай зьяўляюцца цяпер гэтак званыя сацыялістычныя забавязаньні. Звычайна склікаюцца рэспубліканскія нарады перадавікоў сельскай гаспадаркі. На такую нараду заклікаюцца знатныя даяркі, сьвінаркі з высокімі ўзнагародамі, старшыні буйных калгасаў, сакратары райкомаў, абкомаў. На такой нарадзе, пасьля дакладу сакратара ЦК КП Беларусі, прапануецца гэтым перадавіком прыняць сацыялістычнае забавязаньне ад імя ўсіх калгасьнікаў рэспублікі. У гэтым забавязаньні пералічваецца колькі здаць дзяржаве збожжа, бульбы, лёну, цукровых буракоў, мяса, масла й іншых прадуктаў. Далей праводзяцца ў такім-жа парадку нарады ў вобласьцях, раёнах і ўрэшце даходзіць гатовае заданьне да калгасу.

І ў мінулыя гады практыкаваліся сацыялістычныя забавязаньні, але яны насілі фармальны характар. Выкананьне іх звычайна не правяралася. Цяпер сацыялістычнае забавязаньне зьяўляецца законам, які падлягае выкананьню.

Вось-жа перад тым, як склікаць пленум, адбылася праверка выкананьня гэтых сацыялістычных забавязаньняў. Пленум і адзначыў, што кадры, гэта значыць партыйна-савецкая верхавіна, якая кіруе й муштруе «працаўнікамі зямлі» (калгасьнікамі), недастаткова моцна й настойліва прымушае калгаснае сялянства выконваць прынятыя безь яго ўдзелу сацыялістычныя забавязаньні.

Якія запраўдныя ўдачы дасягнуты ў першым квартале калгасамі й саўгасамі? Перш за ўсё 60 раёнаў Беларусі ня выканалі сацыялістычных забавязаньняў у першым квартале ў вытворчасьці мяса й 41 раён — у вытворчасьці малака. У пастанове пералічваюцца некаторыя раёны, якія выпрадукавалі малака й мяса менш, чымся ў мінулым годзе.

Пастанова пленуму з абурэньнем адзначае, што саўгасы рэспублікі ў першым квартале выпрадукавалі малака й мяса на сто гэктараў значна менш, чымся калгасы. Асабліва адстаюць саўгасы Магілеўшчыны. Як і ў мінулыя гады калгасы й саўгасы здаюць дзяржаве ляда шчую неадкормленую жывёлу. У пастанове адзначана, што нічым нельга апраўдаць шматлікія выпадкі памору жывёлы на калгасных і саўгасных фэрмах.

Пленум ЦК патрабуе павесьці змаганьне за недапушчальнасьць самых дробных недахопаў, супраць бесклапотнасьці, пустазвонства, парадных выступленьняў. Каго-ж, аднак, абвінавачваць у пустазвонстве, калі гэтай хваробаю апанаваныя ў першую чаргу камуністычна-камсамольскія арганізацыі? Ці-ж гэта не пустазвонства, калі пленум запісвае ў сваёй пастанове: «у травені вывесьці ўсіх сьвіньней і буйную рагатую жывёлу ў летнія лягеры, а ўсе сьвінарнікі перабудаваць, каб утрымліваць сьвіньней гуртам. Для атрыманьня высокіх прывесаў ад жывёлы на нагулах падабраць пастухоў. На працягу красавіка-траўня забясьпечыць злучку й штучнае асемяненьне ўсіх цялушак злучнога ўзросту й кароў, якія ацяліліся да першага красавіка. Сабраць збожжавых культур ня менш 10 цэнтнараў, бульбы — 120—125 цнт. з гэктару». Ды ці варта пералічваць яшчэ іншыя пэрлы камуністычнага пустазвонства, якое называецца «канкрэтным кіраўніцтвам калгасамі й саўгасамі»!

Ці ня крыўдна слухаць гэтае пустаслоўе калгаснаму сялянству? Ад такіх дырэктываў запраўды адпадзе ўсякае жаданьне працаваць у калгасах і саўгасах. А таму й зразумела, чаму ўсё маладое, здаровае, ініцыятыўнае пакідае родную вёску, каб ня чуць штодзённых, абрыдлых дырэктываў.

В. Б.

